 


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 47 (612) Год XII 19 ЛІСТАПАДА 1967 г. ЦАНА 60 гр.


# У нацыяналянай камісіі ВК ПАРП

**30 кастрычніка г.г. адбылося пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку, прысвечанае рэалізацыі пастаноў VIII пленума ЦК ПАРП у нацыянальных асяроддзях. На пасяджэнні прадстаўнікі паасобных нацыянальных таварыстваў, дзейнічаючых на Беласточчыне, склалі інфармацыі аб праведзенай працы ў даным пытанні, затым адбылася дыскусія. Члены камісіі асаблівую ўвагу звярнулі на патрэбу насычання большым ідэйным зместам працы ў паасобных таварыствах і зацікаўлення працай таварыстваў падставовых і грамадскіх партыйных арганізацый. (рл)**

# V ПЛЕНУМ БГКТ

У нядзелю 5 лістапада адбыўся чарговы V Пленум Галоўнага праўлення БГКТ. У рабоце Пленума прыймалі таксама ўдзел прадстаўнікі партыйных і дзяржаўных органаў тав. тав. **Ромуальд Зялінскі і Мікола Куц.**

Пленум вёў старшыня ГП **Вінцук Склубоўскі. Паколькі Пленум адбываўся ў часе святкавяння 50-дзесяцігоддзя Вялікага Кастрычніка першая яго частка была прысвечана іменна гэтай знамянальнай даце.** З дакладам аб шляху, які прайшоў Савецкі Саюз ад кастрычніка 1917 года, аб значэнні рэвалюцыі для беларускага народа і ўсяго чалавецтва выступіў старшыня Галоўнага праўлення В. Склубоўскі. Удзельнікі гарачымі апладысментамі прынялі прапанову і пастанавілі выслаць святочную тэлеграму з найлепшымі пажаданнямі ў савецкае пасольства ў Варшаве.

Другая частка Пленума была прысвечана **заданням БГКТ у асенне-зімовы перыяд.** З дакладам на гэтую тэму ад імя Прэзідыума ГП выступіў сакратар **Уладзімір Юзвюк.** Як вынікае з даклада праца гурткоў і наогул таварыства будзе накіравана і ў далейшым на папулярызацыю дасягненняў і ідэй Вялікага Кастрычніка. Дзякуючы намаганням БГКТ, Аддзела культуры ВРН і Ваяводскай бібліятэкі павялічыцца ў бібліятэках колькасць беларускага кнігазбору. У дакладзе падкрэслівалася, што ў апошнім часе наладзілася цяснейшае супрацоўніцтва з Аддзелам культуры ВРН і Куратарыяй.

Праўленне зараз адчувае пэўныя фінансавыя цяжкасці, а звязаны яны з устрыманнем сплаты за маёмасць ад спулдзельні «Бэтэска», якая зараз пераносіцца з Варшавы на Беласточчыну.

Колькасна БГКТ выглядае наступна: існуе 168 гурткоў з 5 868 членамі; за апошні перыяд паўстала 9 новаарганізаваных гурткоў, якія налічваюць 369 членаў; 7 з іх паўстала на Гайнаўшчыне, па адным у Бельскім і Сакольскім паветах; «Лявоніха» дала 102 канцэрты, якія аглядала 13.567 асоб. Шмат было таксама і іншага роду мерапрыемстваў, напрыклад, арганізаваныя Аддзеламі асветы і БГКТ настаўніцкія канферэнцыі, лекцыі лектараў БГКТ і г.д.

Большая ўвага будзе звернута на супрацоўніцтва з дзейнічаючымі на вёсках арганізацыямі, а перш за ўсё гурткі БГКТ павінны ўключыцца ў працу клуба-кавярні. Аб гэтым гаварылі таксама дыскутанты. Істотнай справай у працы аддзелаў і гурткоў БГКТ павінна стацца ініцыяванне курсаў беларускай мовы для дарослых.

Гаворачы аб беларускім аматарскім мастацкім руху даклад сцвярджае, што колькасна ён не ўзрастае і не паменшваецца. Аднак узровень мастацкіх калектываў у параўнанні да мінулых год намнога вышэйшы. Аднак у мастацкім руху існуюць аграмадныя цяжкасці перад усім рэпертуарнага характару. I таму Пленум звярнуўся з заклікам да нашых пісьменнікаў, каб тыя змаглі напісаць некалькі п'ес для беларускага аматарскага руху.

Заданні БГКТ Пленум удакладніў наступна:

1) Далейшы актыўны ўдзел у адзначэнні 50-годдзя Вялікага Кастрычніка,

2) Вядзенне ідэйна-выхаваўчай дзейнасці ў беларускіх асяроддзях, выкарыстоўваючы ўсе культурныя мерапрыемствы і гадавіны,

3) Шырэйшае ангажаванне беларускай інтэлігенцыі ў працы БГКТ,

4) Пашырэнне статутовай дзейнасці Таварыства праз арганізаванне і ўмацоўнне аддзелаў і гурткоў БГКТ.

Аб шырокай і плённай дыскусіі мы напішам асобна. А.К.

НАШЫ НАСТАЎНІКІ



# СТАРШЫНЯ АДДЗЕЛА

Усім вядома, што аграмадная роля прыпадае настаўнікам у выхаванні падрастаючага пакалення ў фармаванні яго светапогляду і яго характару.

Аляксандр Іванюк з Гайнаўкі з'яўляецца настаўнікам беларускай мовы. А выкладчыку беларускай мовы ў нашых умовах даходзіць яшчэ адно вялікае заданне — не толькі навучыць чытаць і пісаць, але таксама навучыць любіць і шанаваць родную мову.

Менавіта яна, родная мова, з'яўляецца ключом да пазнання беларускай культуры. Таму менавіта праўленне Гайнаўскага аддзела беларускага таварыства, якое ўзначальвaецца Аляксандрам Іванюком, як галоўную задачу ставіць як найшырэй развіваць культурна-асветную дзейнасць у вёсках і мястэчках свайго павета. Сярод шматлікіх форм гэтай дзейнасці важнае месца займае мастацкая самадзейнасць. Бо нішто так не заахвочвае і не пераконвае аб прыгажосці беларускай мовы, як мастацкае роднае слова, песня, музыка. У Гайнаўскім павеце кожны год маладзёжныя драмгурткі БГКТ, а таксама школьныя калектывы з беларускімі п'есамі, дабіваюцца высокага сцэнічнага ўзроўню, а дэкламатарскі калектыў з Белавежы, у рэпертуар якога былі ўплецены беларускія песні і музыка, у гэтым годзе ў час аглядаў заняў першае месца ў Гайнаўцы і ў Беластоку.

Да найбольшых дасягненняў аддзела ў мастацкай самадзейнасці трэба аднесці ўтварэнне ў Гайнаўцы эстраднага калектыву , які часта выязджае на вёскі з канцэртамі і славіць роднае слова і песню.

Агульнавядома, што паспяховасць дзейнасці кожнай грамадскай арганізацыі залежыць ад добрай працы актыву. А каб гэты актыў быў пранікнуты супольнай мэтай і імкненнем, і каб здольны быў да ініцыявання патрэбных мерапрыемстваў, вельмі многа залежыць ад кіраўніка, а ў нашым выпадку ад старшыні аддзела БГКТ, ад яго арганізатарскіх здольнасцей і аўтарытэту.

Аляксандр Іванюк мае гэтыя даныя. Настаўніцкая шырокая эрудыцыя, сабранасць, вытрыманасць, тактоўнасць на пасяджэннях прэзідыума і праўлення аддзела і на шматлікіх нарадах прычыняецца да таго, што вакол аддзела групуецца найбольш дынамічная грамадская сіла гэтага павета. I таму менавіта тут, на Гайнаўшчыне, а дакладна ў Белавежы, утвораны этнаграфічны музей БГКТ. Тут найбольш гурткоў беларускага таварыства, найбольш драмгурткоў і найбольш падпісчыкаў «Нівы».

Аляксандр Іванюк паходзіць з Гайнаўскага павета (з Кленік). Пасля заканчэння беларускай філалогіі на Варшаўскім універсітэце вярнуўся ў свой павет, каб аддаваць людзям свае веды, свае арганізатарскія здольнасці. Ужо шосты год Аляксандр Іванюк узначальвае Гайнаўскі аддзел БГКТ, які належна пабуджае нацыянальную гордасць беларусаў і які сваёй культурна-асветнай дзейнасцю мае вялікі выхаваўчы ўплыў на беларускае асяроддзе.

**М. Хмялеўскі**

Фота: **Ул. Паўлючук**



**З нагоды Дня настаўніка ўсім нашым педагогам-актывістам, членам і сімпатыкам БГКТ — шлем самыя сардэчныя прывітанні і пажаданні плённай працы ў выхаванні новага пакалення і шчасця ў асабістым жыцці.**

ГП БГКТ
Рэдакцыя «Нівы»

# БГКТ

## АКАДЭМІІ І ВЕЧАРЫНЫ

21 кастрычніка Гайнаўскі аддзел БГКТ наладзіў у Доме настаўніка ў Гайнаўцы ўрачыстую вечарыну прысвечаную святкаванню 50 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Сабралася на яе каля 150 асоб, членаў і сімпатыкаў БГКТ. З уступным словам да прысутных выступіў Васіль Сакоўскі — настаўнік гайнаўскага ліцэя з беларускай мовай навучання. Даклад аб значэнні Вялікага Кастрычніка прачытаў Аляксандр Іванюк. Затым эстрадная група Гайнаўскага аддзела дала багаты амаль двухгадзінны канцэрт. Пасля канцэрта адбылася вечарына. На століках, якіх тут у гэтым выпадку было ўсім дастаткова, паявілася віно і смакавітая закуска. Моладзь і старэйшыя да раніцы гулялі, спявалі старынныя і сучасныя песні. Вечар прайшоў у незвычайна сардэчнай і цёплай атмасферы.

**Янка Цялушэцкі**

✲

Праўленне Сямяціцкага аддзела Беларускага таварыства супольна з мясцовымі ўладамі ў Мілейчыцах 22-га кастрычніка арганізавалі акадэмію, прысвечаную 50-ай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. У гэтай урачыстасці ўзялі ўдзел працаўнікі Павятовага камітэта ПАРП на чале з першым сакратаром Уладзімірам Рашчэнка і працаўнікі павятовай рады нарадовай на чале са старшынёй прэзідыума Богданам Залускім. Гэты дзень і гэтая акадэмія была незвычайнай у Мілейчыцах, а гэта таму, што прыбылі сюды вайсковыя аташэ пасольства СССР у Варшаве генерал маёр Аляксандр Радыёнаў, а таксама маёр Іван Кужыльны з маці. Кужыльныя прыехалі на магілу свайго сына і брата Мікалая, які загінуў у Вольцы Выганоўскай, а пахаваны ў Мілейчыцах на могілках.

На гэтай акадэміі генерал маёр Аляксандр Радыёнаў узнагародзіў Антона Кочуга з Галубоўшчыны медаллю «За доблестный труд во время II Мировой войны, год 1941—1945».

Антон Кочуг пачаткова быў у Чырвонай Арміі, а потым працаваў на заводах у СССР. А старшыня прэзідыума ПРН у Сямяцічах Богдан Залускі ўзнагародзіў Хведара Касьянюка з Мядзвежыкаў кавалерскім Крыжам Заслугі.

На мастацкую частку склаліся выступленні школьнага дэкламатарскага калектыву, які падрыхтаваў паэму Міхася Машары «Кастусь Каліноўскі». Дала канцэрт таксама эстрада ГП БГКТ «Лявоніха». На акадэміі было 600 асоб.

Пасля ўспомненай урачыстасці адбылося спатканне мясцовага актыву БГКТ з савецкімі гасцямі і прадстаўнікамі павятовых улад. (мх)

## УЗНАГАРОДЫ НАСТАЎНІКАМ

Аграмадную ролю адыгрываюць настаўнікі ў жыцці Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Тым, хто найбольш папрацаваў у гэтым годзе для нашай арганізацыі, ГП БГКТ з нагоды Дня настаўніка прызнала грашовыя ўзнагароды. Вось яны: Аляксандр Іванюк з Гайнаўкі, Анатоль Мартыновіч з Вілінава, Язэп Альшэўскі з Бельска, Іван Ціванюк з Лукі, Аляксандр Панасюк з Пасынак і Зоя Кастэцкая з Піражкоў. (мх)

 

# Вітальд Ярасінскі сярод маладых у Цеханоўцу

Тое, што новы агульнакраёвы асветна- палітычны год ЗМВ пачынаўся ў **Цеханоўцу,** Сямяціцкага павета, не было выпадковым. Ад даўжэйшага часу наша беластоцкая прэса, а затым і цэнтральная, інфармавала аб ініцыятывах і пачынаннях тамашняга насельніцтва. Так сталася, што **ва ўсіх ініцыятывах асноўнае месца займала моладзь з гарадскога гуртка ЗМВ.** А ўсё пачалося ад арганізавання **сельскагаспадарчага музея імя К. Клюка і безумоўна хіба найбольш актыўнага на Беласточчыне рэгіянальнага Таварыства прыяцеляў Цеханоўца.**

Актыўная праца Цеханоўскага гуртка ЗМВ пры пабудове стадыёну, музея і заліва, а таксама дбайнасць аб іншыя справы моладзі зрабіла **гурток ЗМВ у Цеханоўцу адным з найлепшых у краіне.**

Іменна Цехановец быў месцам, дзе адкрываўся новы 1967/68 палітычна-асветны год ЗМВ. Аб важнасці гэтай урачыстасці сведчыць факт, што **прынялі ў ёй удзел найвышэйшыя ўлады: сакратар ЦК ПАРП Вітальд Ярасінскі, Кіраўнік аддзела прапаганды НК ЗСЛь Вальдэмар Вінкель, старшыня Галоўнага праўлення ЗМВ Здзіслаў Куроўскі** і іншыя. Ваяводскія ўлады прадстаўлялі: сакратар ВК ПАРП **Вітальд Мікульскі,** прэзас ВК ЗСЛь **Ян Гызнар** і прэзас ВК СД **Рышард Бартнік.**



**Прэзідыум ўрачыстага адкрыцця асветна-палітычнага года ЗМВ.**

Урачыстасць адкрыў **Станіслаў Крушнеўскі** старшыня Ваяводскага праўлення ЗМВ у Беластоку. Затым з прамовай выступіў сакратар ЦК ПАРП **В. Ярасінскі.** Гаварыў ён аб значэнні Кастрычніцкай рэвалюцыі для польскага народа і для яго незалежнасці, а таксама аб авансе польскай вёскі, якая перастае быць вёскай з даўнейшай памяці. Тав. В. Ярасінскі напомніў, што ёсць яшчэ ў краіне вёскі ўбогія ў культурныя цэнтры. Намаганні дзяржавы, каб змяніць гэты стан рэчаў, не хапаюць, патрэбная тут дапамога самога насельніцтва, а ў тым моладзі. Затым тав. Ярасінскі прысвяціў многа месца справе рэалізацыі пастановы IX пленума ЦК партыі. Між іншым сказаў ён, што **каб магчы добра рэалізаваць заданні ў сельскай гаспадарцы, прынамсі палова вясковай моладзі павінна выбіраць у адукацыі прафесію гаспадара.** Лепшая прафесіянальная падрыхтоўка і тэхнічны прагрэс у сельскай гаспадарцы — вось асноўныя заданні ЗМВ.

Затым былі: праграмны даклад і інаўгурацыйная лекцыя. Выступалі таксама беластоцкія актывісты ЗМВ. Асабліва цікавым было выступленне старшыні гарадскога гуртка ЗМВ у Цеханоўцу, якая расказала прысутным, што тутэйшая моладзь зараз не ведае, што гэта **маламестачковая нуда.** Адной з дрэнных з'яў з'яўляецца тое, што моладзь, якая тут вырасла і кончыла школу, а пайшла далей вучыцца, не вяртаецца на радзіму. Недахоп СПР ці іншай прафесіянальнай школы спрые ўцёкам моладзі з Цеханоўца.

Узнёслым момантам урачыстасці было ўручэнне адзнак **Чэхаславацкага саюза моладзі** актывістам ЗМВ. Уручалі іх прысутныя на ўрачыстасці: сакратар чэхаславацкага пасольства **Вацлаў Бітнэр** і ваенны аташэ палкоўнік **Францішак Двожак.** Ганаровыя адзнакі між іншым атрымалі **С. Крушнеўскі** і выкладчык школення ЗМВ у Нурчыку **Пётр Леанюк.** Пасля гэтага **Здзіслаў Куроўскі** ўручыў актывістам арганізацыі **Ганаровыя залатыя адзнакі ЗМВ,** якія з'яўляюцца найбольшым арганізацыйным адзначэннем.



**Удзельнікі ўрачыстасці**

Урачыстасць закончылі гульні і танцы маладых. Трэба было б жадаць, каб гурткі ЗМВ працавалі ўсюды так, як у Цеханоўцу, каб усім членам ЗМВ асветна-палітычны год праходзіў так весела, як гэта было вечарам 29 кастрычніка г.г. у Цеханоўцу.

**А. Карпюк**
фота аўтара

---

## НАШЫ НАСТАЎНІКІ

# АЛЯКСАНДРА ПАНАСЮК

„Няма прарокаў паміж сваімі», — гаворыць вядомая пагаворка. А настаўнік павінен быць якраз «прарокам» — прапагатарам новых прагрэсіўных ідэй і ўзораў культурнага жыцця. Аляксандра Панасюк рашыла стацца аднак «прарокам» паміж сваімі — вырашыла пачаць працу ў роднай сваёй вёсцы ў Рыбалах. Амбітная настаўніца не абмежавалася да навучання дзяцей, пастанавіла навучыць сяго-таго і са старэйшых. Пад яе кіраўніцтвам разгарнулася ў Рыбалах бурлівая культурная дзейнасць, а асабліва — мастацкая самадзейнасць. Трэба ў гэтым месцы адзначыць, што раней гэтая вёска не мела аніякіх традыцый культурнай працы і нікому з настаўнікаў не ўдавалася зрабіць у Рыбалах нічога талковага. Традыцыю такую дзякуючы сваёй устойлівасці і працавітасці выпрацавала Аляксандра Панасюк. Ад таго часу самадзейнікі з Рыбалаў пачалі займаць відныя месцы на рознага тыпу павятовых і ваяводскіх аглядах.

Зараз Аляксандра Панасюк працуе ў вёсцы Пасынкі Бельскага павета. І тут, як і раней у Рыбалах, у роўнай меры клапоціцца аб добрае правядзенне сваіх урокаў, як і аб культурнае жыццё вясковай моладзі. Каб больш



умела вясці працу з моладдзю, Аляксандра Панасюк вучыцца на тэатральным курсе, які вядзе Ваяводскі дом культуры ў Беластоку.

Праз увесь час сваёй працы ў школе Аляксандра Панасюк з'яўляецца настаўніцай беларускай мовы. Дзеці вельмі любяць яе ўрокі па роднай мове. Настаўніца імкнецца ў іх пераказаць дзецям не толькі акрэсленыя веды, але і прывіць любоў да мовы і ўсяго роднага. (п)

---

Дыскусія, якая адбылася на канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы **ў Гайнаўцы,** сведчыць аб тым, што настаўнікі Гайнаўшчыны надта сур'ёзна трактуюць навучанне роднай мовы. Арганізатары дасканала прадумалі праграму прадбачваючы даклад **мгр Ніны Вішнеўскай,** а таксама **дра А. Баршчэўскага** аб 50-годдзю савецкай літаратуры. Усебакова да канферэнцыі падрыхтаваўся Аддзел асветы ў Гайнаўцы, які правёў дакладнае распазнанне адносна забеспячэння школ у навуковыя дапаможнікі да беларускай мовы, дзіцячай і метадычнай літаратуры, падпіскі часопісаў.



Намеснік інспектара **С. Бароўскі** ў сваім выступленні даў станоўчую ацэнку працы настаўнікаў беларускай мовы падкрэсліваючы, што ўносяць яны велізарны ўклад у пашырэнне культуры на Гайнаўшчыне. Адным з прыкладаў, можа малога «калібра» але вялікай справы, ёсць **школа ў Белавежы.** Што-праўда, тут невялікая колькасць вучняў вучыцца беларускай мовы, але настаўнік вядзе арыгінальную працу з вучнямі. Калектыў вучняў гэтай школы заняў на VI беларускім рэцытатарскім конкурсе ў павеце і ў Беластоку адно з найлепшых месц.

Вернемся да дыскусіі. Шмат ёсць балючых спраў, якія датычаць навучання беларускай мовы. Многія з прапаноў не могуць быць рэалізаваны адразу. Але гайнаўскія настаўнікі гаварылі аб справах здаецца так простых, а ўсё ж недапрацаваных самой школьнай адміністрацыяй. Напрыклад, курсы настаўнікаў беларускай мовы ў час канікул. Кіраўнік школы ў Скупаве **Ю. Навіцкі** і іншыя дамагаліся, каб арганізавана больш гэтага тыпу курсаў, падкрэсліваючы, што яны ў школьнай працы неабходныя. А як справа маецца? Амаль кожны год Кураторыя наракае, што няма поўнага камплекта настаўнікаў на курсе. Дык чыя ж тут віна? Цяжка сказаць. Адно пэўнае, што не вінаваты тут настаўнікі.

Вельмі скептычна гайнаўскія настаўнікі аднесліся да **арганізаваных у Мінску (БССР) курсаў для настаўнікаў.** Тыя, хто быў у Мінску, гаварылі, што **сябры з БССР робяць усё, што могуць, каб даць магчыма найлепшых выкладчыкаў, а тым часам ад нас высылаюцца настаўнікі, якія часта не маюць нічога супольнага з беларускай мовай** і ўвогуле яе не ведаюць. Асветныя ўлады выезд у Мінск трактуюць як узнагароду, але на ўзнагароды — сцвярджалі гайнаўскія настаўнікі — ёсць дыпломы, грошы і т.п., а не павінен быць узнагародай курс у Мінску. Там павінны ехаць настаўнікі, каб павысіць свае веды, а тым, хто слабей ведае бел. мову, арганізаваць курсы тут, на месцы.

Многа месца прысвечана навуковым дапаможнікам. Іх фактычна ў школах мала. З года ў год паўтараецца адно і тое ж, што «мы замовілі, а нам не прыслалі». Гайнаўскія настаўнікі аднак не абмяжоўваюцца да гэтых наракання. Што могуць выконваюць разам з вучнямі на ўроках. **Павятовы метадычны цэнтр носіцца з намерам у канцы гэтага або на пачатку будучага школьнага года арганізаваць выстаўку навуковых дапаможнікаў да беларускай мовы выкананых настаўнікамі і вучнямі.** Ініцыятыва надта цікавая і карысная. Прыдалося б, каб аб гэтым падумалі і ў іншых паветах, а справай зацікавілася Кураторыя і Акруговы метадычны цэнтр.

Як заўсёды была закранута справа падручнікаў. Настаўнікі дамагаліся каб «Дом кніжкі» паведамляў паасобныя школы аб навінках беларускай літаратуры, якая прыходзіць у нашыя кнігарні. Такія праспекты прысылаюць з Варшавы, Познаня, Вроцлава, дык чаму ж нашыя кнігарні не маглі б гэтага зрабіць? Аказваецца, што беларускай дзіцячай і сучаснай літаратуры для школьных бібліятэк амаль няма ў нашых кнігарнях. Апраўдванні, што Мінск не прысылае, не зусім згодныя з рэчаіснасцю, бо, напрыклад, публічныя бібліятэкі пачалі атрымоўваць літаратуру на беларускай мове.

**Сёння Дзень настаўніка. Шчыра кажучы, матэрыял не святочны, але іменна праз паказанне гэтых простых але як жа істотных спраў з настаўніцкай нівы хочацца быць разам з тымі, чыё сёння свята.**

**А. Карпюк**
Фота аўтара



**Настаўнікі беларускай мовы ля століка, дзе паказаны сучасныя беларускія падручнікі і метадычная літаратура.**

---

# Doroczna wystawa amatorskiej fotografii artystycznej

Białostockie Towarzystwo Fotograficzne i Wojewódzka Komisja Związków Zawodowych w Białymstoku przy współudziale instytucji oraz organizacji społecznych i młodzieżowych organizują: „DOROCZNĄ WYSTWĘ AMATORSKIEJ FOTOGRAFII ARTYSTYCZNEJ — 1967".

### WARUNKI UCZESTNICTWA

1. Tematyka zdjęć dowolna.
2. W wystawie mogą brać udział wszyscy amatorzy z terenu województwa białostockiego.
3. Każdy autor może nadesłać do 15 prac w formacie od 18x24 cm (kolorowe), oraz od 30x40 cm wzwyż (czarno-białe).
4. Na odwrocie każdego zdjęcia należy podać imię i nazwisko autora adres, tytuł i numer wg karty zgłoszenia.
5. Do prac należy dołączyć kopertę z kartą zgłoszenia zawierającą: imię i nazwisko, dokładny adres, nr tel. pryw., służbowego oraz spis prac.
6. Prace w płaskich (usztywnionych) opakowaniach przesłać na adres: Białostockie Towarzystwo Fotograficzne, Białystok, skrytka pocztowa 133 **w terminie do 30 XII 1967 r.**
7. Za najlepsze prace przyznane zostaną wysokie nagrody pieniężne, rzeczowe, Dyplom Federacji Stowarzyszeń Fotograficznych w Polsce oraz dyplomy Białostockiego Towarzystwa Fotograficznego.
8. Każdy autor zgłaszający prace otrzyma katalog. Wszystkie zdjęcia przyjęte do ekspozycji otrzymają nalepki pamiątkowe.
9 Ekspozycja wystawy w Białymstoku w miesiącu marcu 1968 roku.
10. Zastrzega się prawo wykorzystania zdjęć do celów wystawienniczych i publikacji.
11. Bliższych informacji dotyczących Wystawy udzielać będzie **Sekretariat Wystawy:**

Wojewódzki Dom Kultury, B-stok ul. Kilińskiego 8 telefon 14-63 Wydział Kutury Prezydium MRN, B-stok, ul. Lenina 9 tel. 42-00.

**Zarząd BTF**

 

**Размова аб шчасці**

Асенні дзень. Шумяць бары —
Пара лістам апасці...
Давайце, добрыя сябры,
Пагутарым аб шчасці.

Ідзе кастрычнік залаты
Палямі і лясамі.
Палаюць дрэвы і кусты
Ружовымі агнямі.

Ад іх дымкі віюцца хмар...
А на двары ля школы —
Чырвоных гальштукаў пажар
І звонкі смех вясёлы.

Дзяцінства радаснага час!
Сябры мае малыя!
Цяжкія мы прайшлі для вас
Дарогі баявыя.

Ад Сталінграда і Масквы
Да Вены і Берліна
Ішлі з баямі мы, каб вы
Валодалі краінай.

Суровым быў славуты шлях, —
Такіх няма на свеце.




І шмат загінула ў баях
За ваша шчасце, дзеці.

Але мільёны нас жывых
Знябытых рук не склалі:
Яшчэ ў шынелях франтавых
Мы на работу сталі.

І дзень пры дні для вас, сябры,
Бывалыя салдаты,
У полі водзяць трактары,
У сёлах ставяць хаты.

Яны для вас ва ўсе канцы
Вядуць абозы з хлебам.
Яны заводы і дварцы
Будуюць вам пад небам.

Каб мелі — зорамі яны
Асыпалі б святліцы,
Блакітам лета і вясны
Пакрылі б камяніцы.

А каб маглі зрабіць майстры
З уласных сэрцаў замак,
Яны для вас, мае сябры,
Яго ўзвялі б таксама.

На полі працы і вайны,
У подзвігах суровых
Для шчасця вашага, сыны,
Бацькі на ўсё гатовы.

Вы паглядзіце на сцягі:
Якія перад вамі
Ляжаць шырокія шляхі,
Адкрытыя бацькамі!

Быць інжынерам хочаш — будзь,
Пілотам — калі ласка...
Ніколі толькі не забудзь
Высокіх абавязкаў!..

**Пятро Глебка**

**1. Што разумее аўтар пад словам «шчасце»?**

**2. Дзякуючы каму дзеці могуць вучыцца ў школе?**

**3. Аб якой стваральнай працы расказвае паэт у вершы?**

**4. Вызначце рыфму* верша.**

***) Рыфмай называецца сугучнасць слоў у канцы вершаваных радкоў. Рыфмы бываюць мужчынскія і жаночыя.**

**Мужчынскай рыфмай называецца такая рыфма, якая канчаецца націскным складам: бары — сябры**

**Жаночай рыфмай называецца такая рыфма, у якой пасля націску ёсць яшчэ адзін ненаціскны склад: апасці — шчасці.**




## УНІЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І ПОЛЬШЧЫ

У другой палавіне XIV стагоддзя паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай наступіла збліжэнне. Да яго прычынілася сталая пагроза наступленняў крыжаносцаў на літоўскія і польскія землі, намаганні мясцовых беларускіх і украінскіх феадалаў вызваліцца з-пад улады літоўскіх князёў і імкненні феадалаў і каталіцкай царквы здабыць уплыў і маёнткі на беларускіх і украінскіх землях. Гэта і давяло да уніі паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай, якая была заключана ў Крэве ў 1386 годзе.

У яе выніку аб'яднаныя сілы абедзвюх краін разграмілі ў 1410 годзе крыжаносцаў пад Грунвальдам і такім чынам была канчаткова затрымана агрэсія нямецкіх феадалаў на славянскія і літоўскія землі. У перамозе пад Грунвальдам выдатную ролю адыгралі палкі з Беларусі.

Адначасова унія дала магчымасць літоўскім феадалам - католікам, польскім феадалам і каталіцкай царкве здабыць аграмадны ўплыў і маёнткі ў вялікім Княстве Літоўскім. Роля і правы мясцовых беларускіх феадалаў і праваслаўнай царквы былі паніжаны і абмежаваны. Іх нездавальненне выразілася ў няспынных выступленнях і змовах супроць вялікага князя.

Асабліва варожа прынялі засілле чужаземцаў і каталіцтва на беларускіх землях народныя масы. У розных гарадах і ваколіцах Беларусі ўспыхвалі паўстанні. Людзі не хацелі прымаць каталіцкай веры, якую насаджалі вялікі князь, літоўскія і польскія феадалы. Сярод працоўных расло незадавальненне з павялічанай паншчыны і іншых павіннасцей у карысць феадалаў.

Стан унутранага неспакою ў Вялікім Княстве Літоўскім асабліва ўзмоцніўся ў другой палавіне XVI стагоддзя. У гэтым часе на ўсходзе пачала развівацца і мацнець маладая Руская дзяржава са сталіцай у Маскве. Вакол яе аб'ядноўваліся рускія землі. З цягам часу яна стала абшырнай і магутнай краінай. Да ўз'яднання з брацкім рускім народам імкнуліся народныя масы беларускіх і украінскіх зямель. Гэтага баяліся вялікі князь і феадалы Вялікага Княства Літоўскага. Яны імкнуліся перашкодзіць росту магутнасці Рускай дзяржавы. Гэта прывяло да вайны. У ходзе яе рускія войскі ў 1563 годзе здабылі Полацк, значныя абшары паўночна-ўсходніх беларускіх зямель і накіраваліся да сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. Беларуская шляхта не хацела ваяваць супроць Рускай дзяржавы, а мяшчане адмаўлялі плаціць падаткі на пакрыццё выдаткаў, звязаных з гэтай вайной. Перад Вялікім Княствам Літоўскім паўстала пагроза распаду. Літоўскія феадалы звярнуліся за дапамогай да Польшчы.

Польскія магнаты згадзіліся ім дапамагчы за кошт далучэння да Польшчы Падляшша, Валыні і Падоліі і аб'яднання Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай. Літоўскія феадалы прынялі гэтыя цяжкія ўмовы і ў 1569 годзе ў Любліне падпісалі акт уніі. Вялікае Княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся ў адну дзяржаву — Рэч Паспалітую. Часткай яе аказалася і тэрыторыя Беларусі. На ёй сталі гаспадарыць разам з мясцовымі феадаламі польскія магнаты і літоўскія паны.

## Рэліквія мастацтва Іфэ

Аб знаходцы каштоўнай гістарычнай рэліквіі паведаміў нядаўна дэпартамент старажытнасцей Нігерыі. Гэта — выкананая з тэракоты чалавечая галава размерам у 30 сантыметраў. Спецыялісты лічаць, што яна адносіцца да класічнага перыяду мастацтва Іфэ (адзін з цэнтраў старажытнай афрыканскай цывілізацыі), росквіт якога датуецца XIV стагоддзем.

**БЕЛАРУСІЯНА**

## Зяпрашэнне да супрацоўніцтва

**Люблінскі літаратурны часопіс «Камэна» ад 15 верасня г.г. (нр 17) змясціў падборку перакладаў на польскую мову твораў беларускіх пісьменнікаў: Максіма Танка, Дануты Бічэль-Загнетавай, Аркадзя Куляшова, Сяргея Дзяргая — падаючы прытым іх кароткую аўтабіяграфію.**

**Аўтарам перакладаў з'яўляецца Казімеж Анджэй Яворскі.**

**З гэтай аказіі рэдакцыя «Камэны» дала кароткую гісторыю папулярызацыі беларускай літаратуры ў Польшчы на старонках гэтага часопіса, які пачаў сваё існаванне яшчэ ў сярэдзіне міжваеннага дваццацігоддзя. Рэдакцыя «Камэны» выступае з прапановай абмену літаратурнымі матэрыяламі — і сістэматычнага абмену літаратурнымі органамі. (ся)**

**РУСНАКІ**

Руснакі — так называе сябе невялікая украінская нацыянальная меншасць, што пражывае на тэрыторыі вянгерскай аўтаномнай акругі Вайвадзіна ў Югаславіі. Так званых, руснакоў тут каля трыццаці тысяч, з'яўляюцца яны перасяленцамі з украінскіх Карпатаў — першыя з іх паявіліся тут у 1744 годзе. **Стварылі яны арыгінальную мясцовую украінскую культуру і пісьменніцтва.**

Зараз створана ім усе магчымасці для поўнага нацыянальнага быту: выдаюцца часопісы і кніжкі, ёсць радыёвяшчанне і школы. Цэнтрамі гэтай украінскай нацыянальнай меншасці з'яўляюцца мястэчкі — Рускі Керэстур і Куцура на ўраджайнай раўніне Бачка, за прыгранічнай Субоцічай, што ля вянгерскай граніцы. (ся)




Джонсан кіўком паклікаў Мойерса. Ён сказаў яму, што не мае намеру ісці ў спальню. Магчыма, удава прэзідэнта пажадае выкарыстаць яе, каб прывесці сябе ў парадак. Мойерс, мяккі і спакойны сувязны, адправіўся паведаміць аб гэтым Жаклін Кенедзі, але яна адхіліла запрашэнне Мойерса, спальня ёй не была патрэбна. Успомніўшы такія непатрэбныя ёй цяпер новыя сукенкі, раскладзеныя там, яна падумала аб тым, як добра спазнала Ліндана Джонсана за свае тры гады ў Белым доме. Паміж імі былі цудоўныя адносіны.

Вельмі многа залежала ад таго, што іменна скажуць журналістам пасля пасадкі. Яна паслала за Макілдафам і сказала яму: «Вы павінны, Мак, абавязкова сказаць ім, што я была не ў салоне, а вярнулася сюды і сядзела з Джэкам». Макілдаф кіўнуў і прамармытаў: «Абавязкова скажу».

Паступова ўсе пераканаліся, што трэба ўгаварыць Жаклін прывесці сябе ў парадак. У салоне гэтым былі занепакоены Джонсаны і Руфус Янгблад, гэтым жа былі заклапочаны і людзі, што стаялі ля труны ў хваставым адсеку.

— Чаму б вам не пераапрануцца? — звярнуўся да пані Кенедзі Макх'ю.

Яна рашуча паківала галавой. Макілдах убачыў засохлую кроў пад бранзалетам на яе левым запясці і ўздрыгнуў.

Першай думкай Мэры Галагер, калі яна зайшла ў задні адсек, было прынесці ручнік, цёплую ваду і мыла. Яна шэптам раілася з Макх'ю, Кліфтанам і Клінтам Хіламі, пакуль не падышоў О'Донел і не сказаў:

— Не трэба нічога рабіць. Няхай яна застаецца так.

Кен зразумеў, чаго яна хацела. Нарэшце Жаклін парушыла маўчанне і звярнулася да доктара Бэрклі. Апусціўшыся на калені, доктар дрыжачай рукой паказаў на яе запырсканую крывёю спадніцу.

— Магчыма, вам пераапрануцца? — нясмела прапанаваў ён.

— Не, — адказала яна ціхім, але цвёрдым голасам. — Яны павінны ўбачыць, як жахліва ўсё гэта было.

— Ведаеце, што я збіраюся зрабіць, Джэкі? — нечакана спытаў Кен О'Донел. — Я хачу выпіць чаго-небудзь мацнейшага. Я думаю, вам таксама трэба выпіць.

Яна не адважвалася. Ёй трэба было выконваць свой абавязак, і, акрамя таго, наперадзе было яшчэ шмат міль шляху. Яна баялася, што, выпіўшы, яна страціць над сабой уладу і разрыдаецца. Але ўсё ж яна спытала:

— А што мне выпіць?

— Я вам налью шатландскае віскі.

— Я ніколі ў жыцці не піла шатландскае віскі.

Яна завагалася, а потым кіўнула галавой, падумаўшы: людзям у стане шоку часта рэкамендуюць спіртное.

Кен прынёс ёй высокую, цёмную шклянку. Смак віскі нагадваў ёй нейкае агіднае лякарства, карболку. Але яна ўсё ж дапіла да дна.

Мужчыны, якія стаялі вакол яе, асушалі адну шклянку за адной. Макілдаф пазней падлічыў, што паміж Даласам і Вашынгтонам ён выпіў амаль цэлую бутэльку джына. Кожны з іх хацеў аблегчыць сабе гэты жахлівы палёт.

### ШЛЯХ НА ЎСХОД

Падганяемы спадарожным ветрам, прэзідэнцкі самалёт нёсся на ўсход амаль са скорасцю гуку. Самалёт атрымаў дазвол на палёт на вышыні 29 тысяч футаў (фут — 30,48 сантыметра. — Рэд.). Палкоўнік Суіндэл быў, аднак, поўны рашучасці ляцець на максімальнай вышыні, вышэй, чым калі-небудзь раней падымаўся прэзідэнт Кенедзі, і ён набраў яшчэ 12 тысяч футаў, перш чым лёг на курс. На гэтай каласальнай вышыні — больш чым сем міль над зямлёй — неба было бязвоблачнае і чыстае, але яго спакой быў падманны. З ваенна-паветранай базы Эндрус паступалі зводкі аб ураганах, якія бушавалі ўнізе, а з боку Арызоны насоўваліся патокі халоднага паветра. Шалёныя шквалы ўжо наляталі на Заходнюю Вірджынію. У Лаўфілдзе рэзка падала тэмпература, і неба на захадзе стала барвовым. «Надвор'е Кенедзі» пакінула Далас разам з ім.

На поўдні Суіндэл бачыў у небе адзінокі месяц, які лёгкім ценем павіснуў над зямлёй. Спачатку ён нават узрадаваўся, што яны будуць садзіцца ў цемры. Змрок як нельга лепш будзе адпавядаць агульнаму настрою. Але па меры таго, як змяркалася, ён адчуваў, як імклівыя падзеі дня навальваюцца на яго ўсё больш цяжкім грузам. Суіндэл даставіў прэзідэнта ў Тэхас у выдатным настроі, у росквіце яго здзіўляючых сіл і здольнасцей; і вось цяпер ён вязе яго назад у труне.

Усе яго жыццёвыя сілы, здавалася, скончыліся. За ім у самалёце былі прэзідэнт, першая лэдзі, віцэ-прэзідэнт і



 

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## НАВІНЫ Ў ГАНДЛІ

Што новага ў вясковым гандлі ў наступаючым асенне-зімовым сезоне? Якія новыя тавары паявяцца на паліцах крамаў?

З прамысловых тавараў не павінна быць недахопу, так званых, жалезных вырабаў. З увагі на нізкую цану такіх вырабаў гандаль часамі неахвотна бярэ іх у продаж, з увагі на малы грашовы абарот. Вядома, цвікі, гэта не гарэлка — цяжкія яны і... танныя. На Беласточчыне адчуваецца недахоп сціральных машын, асабліва фірмы СГЛь. Тым часам у іншых ваяводствах ёсць іх аж замнога, ляжаць на складах. Можна сказаць тое самае аб пыласосах і швейных машынах. Затое не павінна быць ніякай бяды з электратэхнічнымі матэрыяламі, як: лямпачкі, уключальнікі і т.п. Тут, вядома, зноў усё будзе залежыць ад паваротлівасці крамароў і іх шэфаў з павятовых ПЗГСаў. Паявіцца ў продажы новы, лепшы тып матацыкла «МО-6», цана 8 тыс. зл. Гэты матацыкл падобны да ВСК, прадукцыя якога спыняецца.

Надалей мала будзе ўсялякіх камянкаў: каменных гаршкоў і т.п. Наколькі нам вядома, вінавата ў гэтым прамысловасць, якая неахвотна бярэцца за прадукцыю камёнак — гэтага цяжкага на вагу і таннага ў цане тавару. Прамысловасць найбольш ахвотна вырабляе тое, што дарагое і на чым найбольшы заробак.

Шкада, што не можна ў гэтым месцы пацешыць нашых вясковых гаспадынь. Надалей будзе мала, а нават менш, усялякіх парашкоў да мыцця, як: «Бялюкс», «Радыён», «Іксі — 65» і «Іксі — 66», «Альфікс». Толькі «Пралюксу» павінна быць у дастатковай колькасці. У дастатковай колькасці павінна быць таксама вадкіх сродкаў да мыцця, якія што праўда горшыя ад парашкоў, але таксама добрыя. Не палепшыцца справа даставкі, так званага, чорнага мыла да мыцця бялізны, хаця Беласточчына атрымае яго больш, чым іншыя ваколіцы Польшчы.

Ручных гадзіннікаў з імпарту, асабліва савецкіх марак сёлета менш, чым у мінулыя гады з увагі на абмежаванні ў нашым заграчічным гандлі. У продажы застануцца пераважна толькі польскія маркі гадзіннікаў.

Купля мэблі на Беласточчыне будзе значна лягчэйшая, чым у іншых раёнах Польшчы, з увагі на большыя прыдзелы мэблі «высокага полыску» і кухонных камплектаў, якія атрымае наш гандаль.

Падажа спажывецкіх тавараў у асноўным утрымаецца на патрэбным узроўні. З увагі на патрэбы нашага замежнага гандлю пагоршае асартымент толькі, так званых, люксусовых вырабаў, як: цукеркі, пернікі і т.п. Цукру, мукі і таму падобных спажывецкіх тавараў штодзённага ўжытку **будзе ў дастатковай колькасці.** (С.Я.)

## НОВАЯ ЗЛЕЎНЯ

У Трашчотках на Гайнаўшчыне заканчваецца будова злеўні малака. Ужо незадоўга сяляне будуць карыстаць з новага, прасторнага, прыстасаванага да патрэб, памяшкання. (МС)

---

пані Джонсан. Ні адзін камандзір карабля ніколі не нёс на сабе такой сур'ёзнай адказнасці, і паступова ім пачала авалодваць занепакоенасць, ці зможа ён дацягнуць да Эндруса. Яго сілы дасягнулі крайнасці. «Я рабіў, — расказваў ён потым, — нечалавечыя намаганні, каб не кінуць штурвал».

Яго другі пілот быў, бадай, у яшчэ горшым стане. Да вылету падпалкоўнік Льюіс Хэнсан толькі і думаў аб тым, як бы хутчэй пакінуць гэты пракляты Тэхас. Ён чакаў, што ў любы момант фюзеляж самалёта можа прашыць аўтаматная чарга, і, пакуль чакалі Сару Х'юс, ён двойчы сам, без каманды, уключаў рухавікі.

«ВПС-1» быў у трыццаці мінутах палёту да базы Эндрус, калі Боб Кенедзі прыбыў на аэрадром. Ваенна-паветраная база Эндрус ніколі не вызначалася асаблівай прывабнасцю. Большая частка аэрадрома была цяпер скрыта ад вачэй змрокам надыйшоўшага вечара. але Кенедзі ўгледзеў групу апаратараў тэлебачання ля варот. Ён цвёрда вырашыў не трапляцца ім на вочы. І ў той жа час ён гэтак жа рашуча хацеў быць побач з Джэкі ў момант, калі спыніцца самалёт. Агледзеўшыся, ён убачыў кінуты ваення грузавік і ўлез у яго.

Над міжнародным аэрапортам імя Далеса Суіндал прарэзаў нятоўсты слой воблакаў і ўпершыню пасля вылету з Усходняга Тэхаса ўбачыў зямлю.

**(Працяг будзе)**

## КАМАСАЦЫЯ

У грамадах Гураны і Шудзялава на Сакольшчыне праводзяцца работы адносна камасацыі зямлі.

Ужо на наступны год восенню сяляне пасеюць жыта на сваёй новаатрыманай калёніі. Назаўсёды будзе ліквідавана цераспалосіца. З атрыманнем калёній сяляне вяжуць надзею на павышэнне ўраджайнасці і на апрацоўку зямлі машынамі. Да гэтага часу няма магчымасці карыстацца сучаснай тэхнікай на некалькіметровай шырыні палосках. (сх)

**(Працяг са стар. 5)**

## У ПОЛЬСКІХ ЛІТОЎЦАЎ

над ім працаваць. Аб гэтым гаварылі настаўнікі ў час нарады камісіі. Прыдалося б выслаць каго-небудзь у Літоўскую Сацыялістычную Рэспубліку, каб там навучыўся сучасных кампазіцый, іграць на інструментах. Да гэтага часу ляжыць цудоўны падарунак з Літвы — камплект музычных інструментаў. Але ніхто тут не ўмее на іх іграць. У час пяцігадзіннай нарады падобных прапаноў было надта многа. Частка з іх была ўладжана на месцы, апошнімі зоймуцца павятовыя і ваяводскія ўлады.

Няма магчымасці напісаць аб усім — пратакол атрымаўся на 20 старонак. Там знайшлося ўсё, тут толькі некаторыя справы, якія запісаў справаздаўца з таго вераснёвага свята ў Пуньску.

**Васіль Гулько**

## ДВУХТЫСЯЧНЫ

З кожным годам на Беласточчыне павялічваецца колькасць гурткоў Саюза вясковай моладзі. У канцы кастрычніка ў вёсцы Арэшкаўцы на Дуброўшчыне былі ўручаны членскія білеты моладзі двухтысячнага гуртка ССМ. (XX)




**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву я ў малым гарадку на Беласточчыне. Маю 18 год. Пазнаёмілася з Валодзем з суседняй вёскі. Ён мне вельмі падабаецца. Ён мае 19 год. Незадоўга ўжо ідзе ў армію. Я з ім часта сустракалася. Валодзя гаварыў, што кахае мяне, аднак я яму не вельмі так верыла. Нядаўна мне сяброўкі мае сказалі, каб я яго пакінула, бо ён даўжэйшы час ужо хварэе на нейкую хваробу, але яны таксама не ведаюць на якую. Я паверыла ім і перастала з ім сустракацца, але забыць пра яго не магу. Калі была аднойчы на забаве, не захацела з ім танцаваць. Цяпер я хацела б з ім сустрэцца, аднак не ведаю, дзе яго сустрэць.

Парай Сэрцайка, ці выслаць яму ліст і перапрасіць, ці чакаць, калі прыедзе ў наш горад. Калі ён прыедзе, што рабіць, ці падыйсці да яго і сказаць аб усім, ці не падыходзіць, а чакаць, пакуль ён падыдзе першы?

За параду буду вельмі ўдзячна.

Надзя з Т.

**Дарагая Надзя!**

На даўжэйшы час ужо запамятаеш, што не трэба ва ўсім слухаць сябровак, а свой розум мець. Вельмі ж часта бывае, што сяброўкі з зайздрасці зробяць усё, абы толькі зрабіць непаладкі паміж іх сяброўкай а яе нарачоным. Як жа ж ты магла паверыць у гэта? Калі хлапец ідзе ў армію, дык жа ж вядома, што ён здаровы, хворых жа не бяруць. Што ж гэта была б за армія. А калі ўжо ты так неразумна паступіла (бо нават і танцаваць не захацела), дык цяпер чакай аказіі, пакуль хлапец твой прыедзе ў твой горад. А пры сустрэчы з ім захавайся так як раней, як бы нічога дрэннага не сталася.

Калі ўжо сам хлапец запытае цябе пра прычыну твайго мінулага паступку, пастарайся вытлумачыць яму нейк інакш, не так, як было сапраўды, бо яму будзе прыкра і не вядома, як тады паступіць ён. Але мне здаецца, што калі Валодзя цябе кахае, напэўна пра мінулае не будзе пытаць, проста прамаўчыць. А цяпер будзь цярпліва і чакай, сама ж вінавата.

Жадаю ўсяго добрага

**Сэрцайка**

## САМАРОДНЫ МАСТАК



**Іван Раманюк у час працы.**

Іван Раманюк з вёскі Гукавічы (Гайнаўскі павет) працуе на гаспадарцы. Выконвае шмат грамадскіх функцый. Шмат ужо год з'яўляецца солтысам, радным ГРН і апекуном аховы раслін. Ведаюць яго жыхары навакольных вёсак, як ахвярнага дзеяча, але перш за ўсё таму, што з'яўляецца жывапісцам.

Тэкст і фота
**Павал Зінкевіч**
Бельск Падляшскі




Шафёр Андрэй Сачынскі з Беластока вёз дзяржаўны цэмент і, замест на будову, 3 тоны гэтага цэменту адгрузіў у Антона Хвесюка, які будуе сабе дом-асабняк у Беластоку. Шафёр меркаваў зваліць віну на іншых, што быццам у яго цэмент укралі. Міліцыі аднак не ўдалося ашукаць. Па загаду пракурора шафёра Сачынскага і Антона Хвесюка міліцыя арыштавала.

Вечарам, 12 кастрычніка г.г. у гарадскім парку ў Беластоку, на вучаніцу VII класа напалі зладзеі і адабралі ў яе гадзіннік «Чайка». Міліцыя ўстанавіла, што ініцыятарам пакражы быў Веслаў Жукоўскі (16 год) з Беластока. Яму дапамагаў 15-гадовы Станіслаў Кітліс. Яны таксама 26 верасня г.г. укралі ў Пятра Сохара з Беластока матацыкл «Іж» вартасцю ў 12 тысяч зл. Пастановай суда абодвух маладых зладзеяў накіравана ў дом для малалетніх злачынцаў.

Ноччу 14 кастрычніка г.г. раптоўна памёр 52-ухгадовы Аляксей Кудрашоў з Беластока, вуліца Валадыёўскага 3, кватэра 13, па прафесіі рабочы. Прычынай смерці быў дэнатурат, якога пакойнік надта ж многа выпіў.

Ноччу 15 кастрычніка ў вёсцы Вялікія Тыневічы ўспыхнуў пажар, у выніку чаго згарэлі абора Мікалая Садоўскага і старая клуня Наталлі Ярашук. Затраты ацэньваюцца на 65 тысяч зл.

Ноччу 15 кастрычніка ў час бойкі быў забіты на смерць 59-гадовы Браніслаў Каліноўскі з Чорнай Беластоцкай. Следства ў гэтай справе вядзе павятовая пракуратура і міліцыя ў Беластоку.

Ноччу з 14 на 15 кастрычніка г.г. у памяшканне Сцяпана Якімюка з вёскі Вілінава ў Сямяціцкім павеце, калі нікога не было дома, праз дзірку ў падмуроўцы, дабраўся злодзей і забраў 10 тысяч злотых.

## НІШЧАЦЬ МЕЛІЯРАЦЫЮ

Жыхары вёскі Сакі не шануюць меліярацыйных равоў. Пасвяць свае каровы на пасеянай траве. І таму завалены там равы, а ў некаторых месцах не працякае вада.

Таксама сяляне вёскі Іванкі пераганяюць каровы цэлымі стадамі праз меліярацыйныя равы.

У месяцы жніўні на меліярацыйным аб'екце Руда-Зацісоўка так прыгожа былі вычышчаны равы рабочымі павятовага аб'яднання воднай суполкі. Маглі б яны добра служыць некалькі год. Аднак ужо цяжка пазнаць, што равы былі кансерваваны

**М. Л.**
Белкі

## ФАСОЛЬКА

Сяляне на вёсцы кантрактуюць кормнікаў, быдла, збожжавыя культуры, цукровыя буракі, лён. Але вельмі яшчэ мала ў грамадзе Дубічы Царкоўныя кантрактуюць сырадэлі, а яшчэ менш фасолі. А вось Іван Галка з Тафілаўцаў адважыўся і закантрактаваў І га фасолі. Вядома, меў работы па вушы, але яна вельмі добра аплацілася. Зарабіў ён на ёй некалькі дзесяткаў тысяч злотых. За яго прыкладам напэўна пойдуць і іншыя гаспадары.

**П. Дубовіч**
Гайнаўскі павет

## РАПС

Рапс на вёсках называюць рапаком. Да нядаўна ў грамадзе Новае Беразова сяляне мала кантрактавалі гэтай культуры. А вось апошнім часам заўсёды перавыконваюць план кантрактацыі рапаку. І так, напрыклад, у мінулым годзе на ўраджай гэтага года паводле плана на грамаду трэба было закантрактаваць 240 га. Але гэты план быў значна перавыкананы і дасягнуў у ГРН Новае Беразова 417 га. Сялянам выгадна кантрактаваць рапак, таму што пры ім значна менш работы, чым пры вырошчванні ільну ці нават цукровых буракоў. (мх)

# КІНО

**Праграма**
**на 21 — 26.XI.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Fifi piórko" (franc.), 21—22. „Gdzie jesteś Maksymie" (radz.), 23—24. „Dzieci Don Kichota" (radziecki), 25—26

**Кляшчэлі**
„Tomcio Paluch" (USA), 21—22. „Wojenko,wojenko" (polski), 23—24. „Życie przeszło obok" (radz.), 25—26.

**Дубіны**
„Biała pani" (czeski), „Zerwany most" (polski), 25—26.

**Нараўка**
„Upiór z Morsville" (czeski), „Zwyczajny faszyzm" (radz.), 22—26.

**Нарва**
„Wzgórze" (ang.), „Czas rozłąki" (radz.), 22—26.

**Чыжы**
„Szkoła grzeszników" (czeski), „Kochajmy syrenki" (polski), 22—26.

**Дубічы Царкоўныя**
„Tak blisko nieba" (czeski), „Tajemnica tajgi" (radz.), 22—26.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Skrytobójcy" (NRD), „Kozacy" (radz.), 22—26.

**Орля**
„Wołga-Wołga" (radz.), Miejsce dla jednego" (polski), 22—26.

**Райск**
„Kontrybucja" (polski), „Aleksander Newski" (radz.), 22—26.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Iwan Groźny (radz.), II s. 21—24.

**Міхалова**
„Zbrodniarz i panna" (polski), „Bitwa nad Wołgą" (szwedzki), 23—24. „Foto Haber" (węgierski), 25—26.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Grymasy" (węgierski), 21—22. „Wojenko, wojenko" (polski), 23—24. „Biedi bogacze" (węgierski), 25—26.

**Шудзялава**
„Tygrys lubi śwież mięso" (francuski), „Odraza" (węgierski), 22—26.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Ludzie w hotelu" (USA), „Zwali go Alcapone" (jugosłowiański), 22—26.

**Новы Двор**
„Zejście do piekła" (polski), „Wyrok na Vc" (jugosłowiański), 24—25

**Ліпск**
„Wołga, Wołga" (radz.), „Kontrybucja" (polski), 25—26.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocię blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa. Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3. NAKŁAD 7627



 

